Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

№ 13 (49) 29 сакавіка – 4 красавіка 1996 года Цана свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Тэма нумар адзін

***Візіт Аляксандра Лукашэнкі ў Маскву на працягу некалькіх дзён быў тэмай нумар адзін у сродках масавай інфармацыі Еўропы.***

Што адбылося ў белакаменнай? На гэта шукаюць адказ палітыкі, журналісты, простыя люд. А знайсці адказ не так проста. Аляксандр Лукашэнка адразу пасля сустрэчы з Ельцыным заявіў аб плане стварэння саюза, прыняцці агульных Канстытуцыі, сцяга. Прэс-сакратар Ельцына п. Мядзведзеў зазначыў, што не хацелася б абвяргаць Лукашэнку, але запярэчыў планам стварэння новай дзяржавы. Памочнік Ельцына па справах нацыянальнай бяспекі п. Батурын у праграме НТВ "Итоги" таксама гаварыў, што справа ідзе нават не аб саюзе тыпу Еўрапейскага. Захад да Еўрасаюза ішоў 40 год.

Але аб чым усё ж ідзе гаворка? Пасля разгону дэманстрантаў 24 сакавіка ў Мінску напружанне не знялося. Над Беларуссю лунаюць прывід Чачні, мроя аб хуткім дабрабыце, летуценні аб агульнаеўрапейскім доме. Што стане рэальнасцю?

*Мікола ГАЙДУК.*

## "Вясна-96"

***МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак у памяшканні цэнтральнай гарадской бібліятэкі адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы твораў мастакоў пад дэвізам "Вясна-96", прысвечанай 78-м угодкам утварэння БНР. На ёй прадстаўлена каля 60 твораў выкладчыкаў школы мастацтваў, дзіцячай мастацкай школы, сяброў Саюза мастакоў.***

Шматлікія гледачы, якія прысутнічалі на адкрыцці гэтай выставы, добразычліва паставіліся да зладжанага гарадскім аддзяленнем Саюза мастакоў мерапрыемства, віншавалі са святам.

На жаль, на адкрыцці не было нікога з гарадскога аддзела культуры, адсутнічалі мясцовыя газетчыкі, як гэта звычайна бывае. Толькі афіцэр міліцыі прайшоўся па зале і праз хвілін колькі знік.

Выстава адкрыта штодзённа з 10 да 19-00, акрамя пятніцы, і працягнецца да сярэдзіны красавіка.

*Кастусь ХАРАШЭВІЧ, старшыня Маладзечанскага аддзялення Саюза мастакоў.*

---

Выконваючы рашэнне Маладзечанскага гарадскога суда, "Рэгіянальная газета" змяшчае наступнае:

***"Прызнаць звесткі, апублікаваныя рэдакцыяй "Рэгіянальнай газеты" ў 20-м нумары (8-14 верасня 1995 года) у артыкуле "Хто прымаў роды ў непаўналетняй?" часткова не адпавядаючымі рэчаіснасці.***

***Прызнаць зневажаючымі гонар, годнасць, дзелавую рэпутацыю галоўнага ўрача маладзечанскага раддома Лавіта Аляксандра Леанідавіча вытрымкі з указанага артыкула наступнага зместу: "Факт глумлення над уласным здароўем і сваім дзіцём 16-гадовай дзяўчыны галоўны ўрач маладзечанскага раддома А. Лавіт расцэньвае як дробязь, якая не заслугоўвае ўвагі газеты".***

***УДАКЛАДНЕННЕ (фармулёўка суда). Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" не сумняваецца ў кампетэнтнасці, чалавечнасці галоўурача раддома А.Лавіта.***

Для чытача. Рэдакцыя не бярэцца каментаваць рашэнне суда. Пасля публікацыі "РГ" "Кожнаму адказчыку па перакладчыку?" (гл. "РГ" №5 за г. г.) чытачы пыталіся: аб чым жа ішла гаворка на судзе? У 20-м нумары "РГ" за мінулы год быў апублікаваны рэдакцыйны матэрыял "Хто прымаў роды ў непаўналетняй?", дзе гаварылася аб родах 16-гадовай дзяўчыны, у выніку якіх загінуля дзіця. Фраза, што стала прадметам судовага разбіральніцтва, сёння па патрабаванню суда абвергнута. Будуць выплачаны пану А. Лавіту і 5 мільёнаў рублёў за маральны ўрон (ісцец патрабаваў 30 мільёнаў).

У цяперашні момант скарга рэдакцыі "РГ" аб пераглядзе справы знаходзіцца ў старшыні аблсуда. Рэдакцыя не хавала сваёй пазіцыі ні раней, ні сёння: нельга лічыць нармальным, калі дзеці нараджаюцца не ў бальніцы, а дома, а юныя "мацяркі", трапіўшы з крывацячэннямі ў бальніцу на "хуткай дапамозе" запраста могуць забыць аб толькі што народжаным немаўляці, якое ляжыць загорнутае ў анучы дзесьці на балконе.

## Напярэдадні паводкі

## Вы назапасілі прадукты? Могуць спатрэбіцца

***На Астравеччыне памятаюць падзеі двухгадовай даўніны, калі ў час паводкі не вытрымала дамба на Яноўскім вадасховішчы. Тады амаль за дзве гадзіны вада ўзнялася на паўтара метра.***

–Уяўляеце, які на дамбе быў націск?– гаворыць начальнік штаба ГА Мікалай Валюк.– Таму і сёлета, як бы там ні было, да паводкі ставімся сур'ёзна. Лепш перастрахавацца.

У раёне працуюць дзве камісіі– па надзвычайных сітуацыях і супрацьпаводкавая. Дваццаць чатыры гадзіны ў суткі ідуць назіранні за надвор'ем, кантралюецца сітуацыя. Па рашэнню выканкома на ўсіх аб'ектах народнай гаспадаркі ўстаноўлена начное дзяжурства. На ўсякі выпадак падрыхтаваліся да частковай эвакуацыі насельніцтва з васьмі вёсак, якія стаяць уздоўж Віліі, Ашмянкі, Лошы. Гэта каля 150 чалавек. Райспажыўтаварыства назапасіла прадукты харчавання– могуць спатрэбіцца. Запланавана адсяленне чатырох жывёлагадоўчых аб'ектаў, сямі магазінаў.

*Інфармацыю па тэлефоне прымаў Васіль САВІЦКІ.*

## Навіны рэгіёна

## Заняткі ўсё ж працягнуцца

***МАЛАДЗЕЧНА. Кепскім першакрасавіцкім жартам ледзьве не стала на мінулым тыдні паведамленне аб закрыцці мясцовай санаторнай школы-інтэрната для дзяцей, хворых на скаліёз.***

Прычынай стала спыненне фінансавання з абласнога бюджэту,– растлумачыў дырэктар школы А. Міхнікевіч.

Па яго словах, на сённяшні дзень запазычанасць за камунальныя паслугі і харчаванне склала каля 300 мільёнаў рублёў. У выніку 237 хворых дзяцей могуць застацца без медыцынскай дапамогі.

Вестка аб закрыцці ўстановы ўсхвалявала бацькоў, якія занепакоеныя прыняццем такога рашэння, бо страчваюць надзею вылечыць дзяцей. Рашэнне аб закрыцці з 1 красавіка ўсіх школ-інтэрнатаў Мінскай вобласці (акрамя школ для дзяцей-сірот) было б непрадуманым.

**P. S.** У апошнія дні стала вядома, што заняткі ў школе ўсё ж працягнуцца– з 1 красавіка. Аб гэтым паведаміў А. Міхнікевіч са спасылкай на ўпраўленне адукацыі Мінаблвыканкома.

*Наталля РАБЧАНКА.*

## Газ – на лічыльніку

***ВІЛЕЙКА. У горадзе пачалася ўстаноўка індывідуальных газавых лічыльнікаў. Малазабяспечаным вілейчанам прыборы ўліку манціруюць бясплатна– першыя заявы на ўстаноўку лічыльнікаў без аплаты нядаўна разгледзеў гарадскі выканком.***

Дагаворы на карыстанне блакітным палівам з калектыўных ёмістасцяў жыхары шматпавярховак заключаюць не з камунальнай службай, а з цэхам звадкаванага газу. Выклікана гэта тым, што летась большасць гараджан разлічвалася спраўна, а камунальнікі з-за беднасці грошы пераводзілі нерэгулярна. Зараз сродкі ад спажыўцоў напрамую паступаюць газаўшчыкам.

*Аддзел інфармацыі.*

## Не захавалі– адраджаем

***Адраджаюцца на Смаргоншчыне забытыя рамёствы.***

У Залессі захоўваюць і аднаўляюць традыцыі работы з саломкай. А ў вёсцы Вішнева вучаць моладзь ткаць рушнікі, посцілкі, палатно. Гурток умельцаў з 12 чалавек марыць аб адкрыцці ў Доме культуры музея, у якім будуць выстаўляцца іх работы.

*Аддзел інфармацыі.*

## Трэба некага баяцца?

***МАЛАДЗЕЧНА. Мясцовы аддзел статыстыкі, або інфармацыйна-выліковы цэнтр займаецца, як водзіцца, статыстыкай тавараабароту, дэмаграфічнай, сацыяльнай. Усе дзяржаўныя і недзяржаўныя прадпрыемствы абавязаны рэгулярна падаваць цэнтру справаздачы.***

Толькі 10% прадпрыемстваў не парушаюць устаноўленага парадку, як, напрыклад, завод металавырабаў. А вось АТ "ЭНЭФ", ЗАТ "Дилис-Косметик" з гадавымі тавараабаротамі ў 3 і 6 мільярдаў рублёў адпаведна падалі справаздачы толькі за 1-ы квартал 1995 года.

Па словах намесніка начальніка Т. Пішчакі, аддзел спадзяецца на гарвыканком, дзе мусяць выпрацаваць меры пакарання правапарушальнікаў. Хутчэй за ўсё, ім прыйдзецца "адмовіцца" ад ліцэнзій з адпаведнымі вынікамі. Вядомыя фірмы "Бамар", "Каскад", "Славянін", "Авен" не падалі ні адной справаздачы за мінулы год, працягваюць упарта ігнараваць просьбы аддзела.

Ніякіх сур'ёзных сродкаў, каб пакараць парушальнікаў, цэнтр пакуль не мае. Застаецца спадзявацца на дапамогу гарвыканкома і павагу з боку кіраўнікоў структур. Мусіць, на самой справе, каб выконваць усё, што патрабуюць, трэба баяцца.

*Святлана КЛІМОВІЧ.*

## Адэкалон у сумцы паштара

***АСТРАВЕЦ. Пацяжэлі апошнім часам сумкі ў паштальёнаў. Праўда, не ад таго, што мы сталі больш выпісваць газет і часопісаў, больш пісаць пісьмы ды адпраўляць тэлеграмы. Справа ў іншым. З пачатку года электрычная і паштовая сувязь раздзялілася. Такі "развод" для апошніх не пайшоў на карысць, бо страты ад іх дзейнасці склалі 90 мільёнаў рублёў.***

Каб хоць нейкім чынам кампенсаваць іх, не скарачаць штат, тут вырашылі гандляваць. Закупілі ў дапаможным цэху калгаса імя Калініна адэкалон "Леваль" і духі "Тэт-а-тэт", а ў гродзенскай фірме "Гея" насенне агуркоў, морквы, памідораў, буракоў і іншых культур. І, відаць, прыйшлася даспадобы па сумяшчальніцтву прафесія гандляроў паштальёнам, таму што першую партыю насення хутка рэалізавалі. Відавочная тут і выгада вясковым пакупнікам– ім не трэба ехаць у горад і шукаць патрэбнае насенне, а дастаткова заказаць у паштальёна, які ў наступны ж дзень даставіць яго разам з карэспандэнцыяй. Сервіс на належным узроўні

Паштавікі плануюць пашырыць асартымент тавараў. Можна меркаваць, што на іх будзе трывалы попыт, бо цэны, як прынята цяпер гаварыць, у паштавікоў ніжэй за рыначныя.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Дружба– Фройндшафт– Пшыязнь

***МАЛАДЗЕЧНА. Яшчэ адзін горад-партнёр з'явіўся ў Маладзечна. 15 сакавіка старшыня гарвыканкома Станіслаў Татарыновіч і старшыня Савета Вікенцій Сірота, з аднаго боку, і прэзідэнт Пётркова Трыбунальскага пан Міхаіл Ржанэк і старшыня савета пан Генрык Комар, з другога, падпісалі дамову аб супрацоўніцтве паміж беларускім і польскім гарадамі.***

На ўрачыстай цырымоніі падпісання прысутнічалі і прадстаўнікі афіцыйных дэлегацый з нямецкага горада Эслінгена, які амаль дзесяць гадоў сябруе з Маладзечнам, і які, дзеля ісціны скажам, паспрыяў наладжванню кантактаў беларусаў і палякаў. І цяпер, едучы ў Германію, нам ніяк не абмінуць Пётркоў Трыбунальскі, які ляжыць прама на шляху паміж Маладзечнам і Эслінгенам.

*Віталь ПАШУК.*

## Імёны на камянях

***МАЛАДЗЕЧНА. Тут ствараецца калектыўная кніга "Імёны на камянях", якая, па словах Ніла Гілевіча, стане адным з найлепшых помнікаў Маладзечаншчыны.***

Героі нарысаў зборніка (іх больш за 80)– вядомыя дзеячы навукі і культуры, паэты і празаікі, палітыкі і героі вайны, жыццё якіх звязана з Маладзечанска-Нарачанскім краем.

*Наталля РАБЧАНКА.*







## Для тых, хто верыць Месяцу

# Месяцавы каляндар на красавік

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Панядзелак<br>Мес.дзень | 1<br>17.07<br>14 | 8<br>-<br>20 | 15<br>5.10<br>27 | 22<br>8.53<br>6 | 29<br>15.58<br>13 |
| Аўторак<br>Мес.дзень | 2<br>18.16<br>15 | 9<br>1.22<br>21 | 16<br>5.36<br>28 | 23<br>9.42<br>7 | 30<br>17.08<br>14 |
| Серада<br>Мес.дзень | 3<br>19.28<br>16 | 10<br>2.17<br>22 | 17<br>6.02<br>29 | 24<br>10.38<br>8 | |
| Чацвер<br>Мес.дзень | 4<br>20.41<br>17 | 11<br>3.04<br>23 | 18<br>2.58<br>6.29<br>1;2 | 25<br>11.38<br>9 | |
| Пятніца<br>Мес.дзень | 5<br>21.54<br>18 | 12<br>3.44<br>24 | 19<br>6.58<br>3 | 26<br>12.39<br>10 | |
| Субота<br>Мес.дзень | 6<br>23.06<br>19 | 13<br>4.16<br>25 | 20<br>7.32<br>4 | 27<br>13.44<br>11 | |
| Нядзеля<br>Мес.дзень | 7<br>24.00<br>20 | 14<br>4.44<br>26 | 21<br>8.12<br>5 | 28<br>14.49<br>12 | |
| Дата | | 4 крас. зацьменне Месяца | 11 крас. | 18 крас. зацьменне Сонца | 26 крас. |
| ФАЗЫ Месяца | | 3 чвэрць | 4 чвэрць | 1 чвэрць | 2 чвэрць |

Усход Месяца– для Маладзечна.

**Крытычныя месяцавыя дні**– 9, 15, 19, 23, 29– патрабуюць асцярожнасці і абароны.

**Спрыяльныя месяцавыя дні**– 6, 10, 12, 16, 17, 30– даюць добрую энергію і падтрымку светлых сіл.

### Месяц у знаках Задыяка

| ДАТА | 3 | 5 | 7 | 9 | 11 | 13 | 16 | 18 | 20 | 23 | 25 | 28 | 30 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ЗНАК | ♎ | ♏ | ♐ | ♑ | ♒ | ♓ | ♈ | ♉ | ⌘ | ♋ | ♌ | ♍ | ♎ |

Асablівасць месяца тая, што ў гэты час адбываюцца два зацьменні, а менавіта 4 красавіка– месяцавае, 18 красавіка– сонечнае. Крыху аб месяцавым зацьменні.

У кожнага чалавека ёсць энергетычнае поле, па крыніцы энергіі якога можна падзяліць гараскопы ўсіх людзей на тры тыпы:

1– гараскоп няўстойлівы

2– гараскоп, які·ўздзейнічае

3– гараскоп устойлівы.

Няўстойлівы тып людзей– найбольш адчувальны да ўспрыняцця і перадачы той ці іншай інфармацыі. Такія людзі ўваходзяць у рэзананс з іншымі людзьмі, бо яны пазабаўленыя асабістай абароны і на падзейным узроўні паддаюцца ўздзеянням рытмаў іншых людзей.

Другі тып– незалежныя ад акружэння, нічога ад гэтага не бяруць. Сярод такіх людзей шмат магаў.

Трэці тып– настаўнікі (маю на ўвазе не прафесію, а ў вышэйшым сэнсе прызванне) і святыя, яны маюць устойлівыя гараскопы.

Наш лёс вызначаюць два цыклы– Месяц і Сонца. А ў час зацьмення, калі гэтыя цыклы сутыкаюцца, праблемы жыцця і смерці становяцца фатальнымі. Арбітрам выступаюць Месяцавыя Вузлы. Іх трэба ўспрымаць як тое, што прымірае жыццё і смерць.

Узыходны Вузел– звязаны з жыццём, Сыходны Вузел– са смерцю. Смерць, гэта, як гворыць Глоба, апошні спектакль у гэтым увасабленні. Кожны раз раскручваецца міф 12 подзвігаў Геракла. Пад смерцю можна разумець развод, змену работы і г. д.

У Авене стэліум планет: Марс, Сонца, Меркурый. Знак канцэнтраваны.

У Шалях злучэнне Месяца і рэтра Хірона з Узыходным Вузлом.

Юпітэр у Казярогу ў падзенні– комплекс дэспатызму, стыхіі, магчымы рэлігійны фанатызм, не падзеляць храмы і г. д.

Чорны Месяц або Ліліт у Раку, горшы яе стан, цягне з мінулага родавыя карані, праклён, забыццё продкаў, подласць. Цяпер за ўсё патрэбна адказваць.

Вышэйназваныя планеты аб'ядноўвае "Вялікі квадрат" з выхадамі на Месяцавых Вузлах.

Па Авену трэба чакаць агню і рэзаных ран, пажараў, дарожна-транспартных здарэнняў; бізнесмены і камерсанты, беражыце бізнес. Магчымыя траўмы галавы, рук і г. д.

Жывёльную ежу выключыце часова з рацыёну. Беражыце ныркі, гіпофіз, эндакрынную сістэму.

Рэтра Хірон ставіць нас перад выбарам на падсвядомым узроўні, узроўні адчувальнасці. У гэты час бойцеся жывёл, насякомых і розных стварэнняў. Магчымыя атручванні.

Прапаную чытычу прасачыць плюс-мінус два тыдні да і пасля зацьмення падзеі жыцця, якія могуць здарыцца з вамі і зрабіць адпаведныя высновы па вашаму гараскопу.

*Іван ШУБЦІК.*

# На Смаргоншчыне ў крамах не падманваюць?

***–У магазінах мяне немагчыма падмануць, аблічыць. А калі такое адбудзецца– сорам ды і толькі. Мне, чалавеку, які павінен абараняць правы спажыўцоў,– кажа ці то сур'ёзна, ці то жартуе Тамара Завядзеева, старшыня Смаргонскага таварыства абароны спажыўцоў.***

У рэспубліцы каля дваццаці такіх таварыстваў– грамадскіх незалежных арганізацый. У Тамары Рыгораўны і яе памочнікаў адразу ўзнікла думка зрабіць рэгіянальнае (Ашмяны, Астравец, Смаргонь). Раённае начальства знайшло памяшканне, паклапацілася аб мэблі, аказала першапачатковую фінансавую дапамогу, паставіла тэлефон. І пацягнуліся ў таварыства людзі: каго аблічылі ў крамах, каму прадалі сапсаваную рэч і адмовіліся абмяняць, няякасна аказалі паслугі.

–Хочам мець свайго юрыста, які будзе аказваць платныя паслугі,– гаворыць Тамара Завядзеева– . Пакуль што ўсё на карысць спажыўцоў робіцца бясплатна. Асноўныя задачы таварыства– інфармаваць чытачоў аб якасці тавараў нашых магазінаў, правяраць выкананне правоў спажыўцоў і правілаў гандлю, зрабіць усё, каб насельніцтва ведала свае правы.

Бывае, самі зарабляем: калі з прэтэнзіямі спажыўцоў на месцы не разбяруцца, звяртаемся ў суд. Выйграем працэс– маем працэнты.

А што ў камерцыйных крамах вісіць шыльда "Тавар абмену не падлягае"– гэта стопрацэнтнае парушэнне вашых правоў. Прыходзьце да нас, і мы не толькі адкажам на ўсе вашы пытанні, але і дапаможам.

*Васіль САВІЦКІ.*

# Што такое мясцовае самакіраванне?

***Напэўна, гэта і магчымасць самастойна распараджацца ўласнымі грашовымі сродкамі. Калі большасць грошай, атрыманых ад падаткаплацельшчыкаў, не трэба пералічваць у "цэнтр", а затым выпрошваць назад хаця б частку свайго.***

Пералічана ў 1995-м у бюджэт:

Вілейскі раён – 75,679 млрд. руб.

Валожынскі раён – 40,223 млрд. руб.

Маладзечанскі раён – 109,500 млрд. руб.

г. Маладзечна – 206,0 млрд. руб.

40 працэнтаў застаецца на месцах, астатняе забірае гэты самы "цэнтр", каб падкарміць слабейшых, утрымаць армію ваенных, чыноўнікаў рэспубліканскага машмабу і г. д.

Для параўнання: бюджэт г. Маладзечна летась склаў 100,932 млрд. руб. У канцы года ўтварыўся яго дэфіцыт. Куды ж краіна падзела пералічаныя ёй 100 маладзечанскіх мільярдаў (тут і нашы з вамі грошы, чытач), невядома.

Складаная справа – бюджэт, падаткі. Нават на Захадзе не надта спяшаюцца раскрыць нам свае тайны ў гэтым.

*Аддзел інфармацыі.*

# Ёсць жансаветы, якія існуюць не толькі на паперы

***МАЛАДЗЕЧАНСКІ Р-Н. Па выхадных днях у кватэры Святланы Купчык нібы працуе гарачы тэлефон. "У бацькоў-п'яніц галадаюць і не ходзяць у школу дзеці", "адзінокай, забытай богам і дзецьмі бабульцы няма каму напісаць заяву на дапамогу", "маці-адзіночка ніяк не можа знайсці работу", "Света, дапамажы",– гучыць у канцы кожнага такога паведамлення.***

І Святлана, маці дваіх дзяцей, адкладвае свае справы і бярэцца за грамадскія. Яна– старшыня жансавета ў пасёлку Чысць.

Прыехала яна сюды з чарнобыльскай зоны. З 10-месячнай дачушкай на руках на трэці дзень пасля аварыі яна дзе пешшу, дзе на спадарожных дабіралася да сваякоў у Беларусь. Напэўна, таму разумее з паўслова сваіх сяброўак па няшчасцю і стараецца хоць у нечым аблегчыць іх жыццё.

... Да дзесяці вечара Святлана з мужам упрыгожвалі навагоднюю ёлку ў дзіцячым кафэ, каб на наступны дзень сабраць ля яе чысцінскіх дзяцей-інвалідаў. Папрасілі аб дапамозе работнікаў культуры, знайшлі фундатараў, і дзеткі не толькі павесяліліся, але і атрымалі падарункі.

Чысцінскі жансавет існуе няшмат– дзесяць месяцаў. Менавіта столькі споўнілася і яго "хрэсніку"– Андрэйку. Здарылася так, што немаўля і яго маці не было каму забраць з раддома, паклапаціцца аб пасагу для малыша. Усе гэтыя клопаты ўзяла на сябе Святлана, падключыўшы кіраўнікоў мясцовых прадпрыемстваў. Першай распавіла хлопчыка ў родных сценах, вучыла яго маці, як карміць, купаць. Калі цяпер яна адчыняе дзверы іх кватэры, Андрэйка радасна працягвае ручкі: "Цёця Света прыйшла!"

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.*

# Стане горам шлюб настаўніцы з шафёрам

***Ірына Зубкевіч, загадчыца аддзела ЗАГС Вілейскага райвыканкома, паскардзілася: "Шыльду з дзвярэй хтосьці ўсё здымае. "Жартаўнік", можа, лічыць, што мы, акрамя шлюбаў і разводаў больш нічым не займаемся. Сядзім сабе тут, лясы точым. А работы хапае і эмоцый таксама: ідуць да нас людзі са сваім горам і радасцю."***

Знаёмлюся з апошнімі дадзенымі: у раёне жыве менш за 37 тысяч чалавек (не ўлічваючы горад). За мінулы год памерла 925, нарадзілася 312. Калі так і ў далейшым будзе працягвацца, што стане з раёнам?

–Тое і стане,– гаворыць Ірына Іванаўна.– У нас 70 працэнтаў людзі пенсійнага ўзросту. Вытворчасць амаль у заняпадзе. З Чарнобыльскай зоны ўжо ніхто да нас не трапляе. Едуць толькі ад нас– моладзь у пошуках шчасця. Тры апошнія гады выходзім амаль на аднолькавую лічбу ўступаючых у шлюб– дзвесце сорак адзін па выніках года. Цяжка сказаць, ці палепшаць Веранікі, Дар'і, Кацярыны, Максімы, Андрэі (самыя распаўсюджаныя імёны немаўлятаў) дэмаграфічны малюнак. У нас кансерватыўны раён: няма вялікай розніцы ва ўзросце ўступаючых у шлюб (у сярэднім не больш за шэсць гадоў), амаль няма шлюбаў у сталым узросце. Як выключэнне: распісаліся 55-гадовы механізатар і 44-гадовая калгасніца. У нас так і распісваюцца: даярка і трактарыст, медсястра і слесар. Заўсёды выклікае спрэчкі, плёткі шлюб настаўніцы і шафёра.

Здаецца, як і ў кожным раёне, занадта злоўжываюць спіртным. Гоняць і п'юць гарэлку ці то ад свайго распуства, ці ад таго, што згубілі цікавасць да жыцця? За мінулы год 75 скасаваных шлюбаў. Назіраецца цікавая традыцыя– многа 16-17 гадовых распісваюцца (пераважна дзяўчат). Падчэпяць сабе хлопца. Праз нейкі час– жаніся. Тут і бацькі "пацярпелага боку" падключаюцца. А што, у дачкі мужык ёсць, хай аб ёй і клапоціцца. Эканамічная выгада, ды і нервы сабе ў далейшым не сапсуеш.

*Гутарыў Васіль САВІЦКІ.*

## Вяртаючыся да падзеі

# Усё пачынаецца з любві...

***Нягледзячы на тое, што гасцінныя маладзечанцы сустракалі ўдзельнікаў рэспубліканскага тэатральнага фестывалю леташнім квасам, а не сёлетнім бярозавым сокам,– прырода яшчэ не прачнулася ад зацяжнога зімовага сну, "Маладзечанская сакавіца-96", што прайшла 15-17 сакавіка, удалася. Гэта засведчылі вядомы драматург і намеснік міністра культуры рэспублікі.***

Фестываль камерных тэатраў нарадзіўся ў 1994-м - з любві былога мэра Маладзечна, цяпер намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Генадзя Карпенкі да Стэфаніі Станюты. Сёлета заснавальнікамі "Сакавіцы" сталі гарадскі выканаўчы камітэт, Міністэрства культуры, Саюз тэатральных дзеячаў і ўпраўленне культуры Мінаблвыканкома. У ліку спонсараў побач з вядомай "Дайновай" - мясцовыя фірмы "ОРТ-Стандарт", ЗАТ "Гандлёвы Дом "Няміга", іншыя.

Фестывальныя дні нібы спрасаваліся ў адно чароўнае імгненне: шэсць цудоўных спектакляў, запамінальныя акцёрскія работы, цікавыя сустрэчы і творчыя дыскусіі. Побач з "зоркамі" з Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы і акадэмічнага Рускага тэатра імя Максіма Горкага Ліліяй Давідовіч, Генадзем Гарбукам, Марыяй Захарэвіч, Расціславам Янкоўскім, Юрыем Сідаравым, Аляксандрам Ткачонкам ды іншымі ззялі іх маладыя калегі з Мінскага і Гродзенскага абласных драматычных, тэатра-студыі кінаакцёра і тэатра-лабараторыі нацыянальнай драматургіі "Вольная сцэна". Работа рэжысёраў-пастаноўшчыкаў і акцёраў, арыгінальныя п'есы, удзячная глядацкая аўдыторыя і, безумоўна, шчыраванні арганізатараў і гаспадароў святаў даюць падставы гаварыць: "Маладзечанская сакавіца" будзе жыць! Роўна год засталося чакаць новага тэатральнага фэсту.

**Аляксей Дудараў, драматург, старшыня Саюза тэатральных дзеячаў:**

–Мы думалі-гадалі: як часта праводзіць "Сакавіцу"– штогод, праз год, праз два? І цяпер з упэўненасцю магу сказаць: яна будзе праходзіць кожны год! У нас ёсць патэнцыял, каб набраць новыя п'есы, спектаклі, з'ехацца і паказаць гледачу свае работы.

Фестываль паказаў, што ён, можа, нават і вышэй, чым два папярэднія. Так аб'ектыўна склалася. Сёлета, што ні спектакль,– то радасць, што ні вобраз,– то асалода. Апошнім часам, мне так падаецца, у нашага тэатра збілася дыханне, а вось цяпер яно зноўку пачынае ўсталёўвацца. Жыве беларускі тэатр! І якое шчасце адчуваць гэта!

**Уладзімір Рылатка, першы намеснік міністра культуры:**

–Фестываль, безумоўна, адбыўся. На сцэне панавала сапраўдная творчасць, у зале– глыбокае разуменне яе. У душах– уздым. У наш такі складаны час мастацтва, яго вечныя ідэалы Вера, Надзея, Любоў могуць і здольныя абудзіць у чалавеку лепшыя пачуцці, скіраваць яго ўчынкі на дабро.

Увага, якую дзяржава надае сёння мастацтву наогул і тэатру ў прыватнасці ў тых межах, якія магчымыя,– галоўнае сведчанне неабыякавасці да духоўнага развіцця нацыі. Мы ў міністэрстве настроены, каб кожны раз з вясной у Маладзечна прыходзіла "Сакавіца".

*Віталь ПАШУК.*

